*Лашкевіч С. А.* Узаемаадносіны Вялікага княства Літоўскага і маскоўскай дзяржавы (30 чэрвеня 1587 г. — 30 студзеня 1588 г.)/ С. А. Лашкевіч // Российские и славянские исследования : науч. сб. Вып. 7 / редкол. : А. П. Сальк ов, О. А. Яновский (отв. редакторы) [ и др.]. — Минск : БГУ, 2012. С. 117-122.

**С. А. Лашкевіч**

# УЗАЕМААДНОСІНЫ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА І МАСКОЎСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ ПАДЧАС ЭЛЕКЦЫЙНАГА І КАРАНАЦЫЙНАГА СОЙМАЎ У РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ (30 чэрвеня 1587 г. — 30 студзеня 1588 г.)

Якасна новым этапам у даследаванні гісторыі Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ) можна лічыць перыяд з 1991 г., калі Беларусь набыла дзяржаўную самастойнасць і выйшла на міжнародную арэну як незалежны суб'ект міжнародных адносін. У сувязі з гэтым беларуская грамадскасць звярнула ўвагу на знешнепалітычныя традыцыі і дыпламатыю беларускай дзяржаўнасці, пачынаючы ад Полацкага Княства і заканчваючы перыядам існавання БССР.

**Уводзіны.** Калі існаванне знешняй палітыкі і дыпламатыі ВКЛ у далюблінскія часы не ставілася даследчыкамі пад сумненне, то ўжо знешнепалітычны перыяд пачынаючы з 1569 г. адмаўляўся. Памылковасць гэтага сцвярджэння зыходзіла з таго, што паводле ўмоў Люблінскай уніі 1569 г. знешняя палітыка і абарона Рэчы Паспалітай (РП) былі агульнай справай Вялікага Княства і Кароны. На самай жа справе ВКЛ у другой палове XVI ст. захоўвала частку ўнутры- і знешнепалітычных паўнамоцтваў у рамках адзінай дзяржавы. Перыяд узаемаадносін Рэчы Паспалітай і Маскоўскай дзяржавы ў 1587—1588 гг. характарызуецца вырашэннем двухбаковых праблем шляхам мірных перагавораў і кампрамісаў. Менавіта палітычная эліта ВКЛ была ініцыятарам такой мірнай знешнепалітычнай тактыкі ў адносінах да Масквы.

На сённяшні дзень не існуе комплекснай працы аб дыпламатычных адносінах ВКЛ з Маскоўскай дзяржавай у канцы XVI ст., яле ў сусветнай гістарыяграфіі прысутнічае шмат прац, якія тым альбо іншым чынам датычацца дадзенай праблематыкі. Беларуская гістарыяграфія па знешнепалітычнай дзейнасці Рэчы Паспалітай прадстаўлена не так поўна, як польская альбо расійская [1—8]. Польская гістарыяграфія прадстаўлена на вельмі высокім тэарэтычным узроўні [9—18]. Што датычыцца расійскай гістарыяграфіі, то яна прадстаўлена ў трох перыядах: расійскай дарэвалюцыйнай, савецкай і сучаснай расійскай [19—23]. Пры напісанні працы былі выкарыстаны матэрыялы Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі і Расійскага дзяржаўнага архіва старажытных актаў [24—30]. Аўтар абапіраўся на выдадзеныя дакументы па знешнепалітычнай праблематыцы ВКЛ і Рэчы Паспалітай [31— 34].

**Элекцыйны сойм Рэчы Паспалітай і пазіцыя ВКЛ.** Элекцыйны сойм РП пачаўся 30 чэрвеня 1587 г. [11, с. 266]. Баркулабаўскі летапіс паказвае вялікае напружанне вакол выбрання новага караля: «На томъ же зъезде было немилостивые посварки и забойства, выличили на томъ сейме невиннее забитихъ семъ сотъ головъ». Летапіс прыводзіць лічбу замежных пасольстваў — 20 [34, с. 472; 2, с. 8]. На элекцыйным сойме кандыдатуру эрцгерцага Максіміляна падтрымалі Збароўскія разам з познаньскім ваяводай С. Горка, ваяводай валынскім Я. Астрогскім. З палітычнай эліты ВКЛ кандыдатуру Габсбурга падтрымалі толькі Радзівіл Сіротка і яго брат Юрый Радзівіл. Шведскага каралевіча падтрымалі магнаты і шляхта Кароны Польскай начале з Я. Замойскім і каралевай Ганнай [14, с. 85—86]. Вельмі папулярнай была кандыдатура Фёдара Іванавіча, асабліва сярод шляхты ВКЛ [3, с. 195; 11, с. 266—267].

Дэлегацыя ВКЛ на элекцыйным сойме размяшчалася пад Варшавай асобна, на правым беразе Віслы, паколькі была вялікая верагоднасць ваеннага супрацьстаяння паміж прыхільнікамі прэтэндэнтаў на трон РП [13, с. 40]. На пачатку элекцыі літвінскія патрабаванні да

**Лашкевич Сергей Анатольевич** — старший преподаватель кафедры международных отношений Белорусского государственного университета

будучага манарха зводзіліся да трох асноўных пытанняў: зацвярджэнне Статута ВКЛ, далучэнне Інфлянтаў да ВКЛ і заключэнне вечнага міру з Масквой [5, с. 343; 10, с. 147].

Вялікае пасольства выехала з Масквы 7 чэрвеня 1587 г. і прыехала пад Варшаву ў ліпені 1587 г. [34, с. 472]. У склад вялікага пасольства ўвайшлі баярын Сцяпан Васільевіч Гадуноў, баярын Фёдар Міхайлавіч Траекураў, дзякі Васіль Якаўлевіч Шчалкалаў і Дружына Панцялей Пяцелін [32, с. 78—79; 23, с. 139]. Пры сабе паслы мелі план узыходжання Фёдара Іванавіча на трон РП, які, па словах М. М. Карамзіна, зводзіўся да наступных пунктаў: маскоўскі цар становіцца каралём РП, дзве дзяржавы аб'ядноўваюцца ў адну; сумесны ваенна-палітычны саюз супраць туркаў і татараў, а таксама далучэнне да ВКЛ і Кароны зямель, размешчаных на паўднёва-ўсходнім кірунку; Маскоўскае, Казанскае і Астраханскае войска павінны былі ў выпадку пагрозы абараняць РП; захаванне свабод і вольнасцей шляхты РП; свабода выбара месца жыхарства як у РП, так і ў Маскоўскай дзяржаве; землі Дона і Данца пераходзілі пад уладу шляхты ВКЛ і Кароны; Фёдар Іванавіч павінен быў аплаціць даўгі караля С. Баторыя; выдаткаваныя сродкі на абарону літвінска-маскоўскіх рубяжоў перанакіроўваліся на будаўніцтва крэпасцей у паўднёва-ўсходнім кірунку; свабода гандлю як у Маскоўскай дзяржаве, так і свабодны праезд купцоў РП праз яе тэрыторыю [21, с. 82—83].

12 ліпеня 1587 г. маскоўскае пасольства прыехала на элекцыйны сойм РП, дзе было размешчана ў вёсцы Окунёў у 15 вёрстах ад Варшавы [23, с. 143]. Нагадаем, што пасольства ад Шведскага Каралеўства прыехала да Варшавы 22 чэрвеня 1587 г. і да прыезду маскоўскай дэлегацыі ўжо адбыліся перагаворы з прадстаўнікамі ВКЛ і Кароны Польскай [10, с. 148].

14 жніўня 1587 г. пад Варшаву прыбыў маскоўскі ганец Андрэй Акінфеў з мэтай уручыць два лісты ад цара Фёдара Іванавіча: адзін — сенатарам Кароны, другі — сенатарам ВКЛ [32, с. 75—77]. Палажэнні ліста да сенатараў Кароны Польскай (датаваны чэрвенем 1587 г.) былі наступныя: узгадваліся папярэднія дыпламатычныя візіты ў Маскву і ў РП; пацвярджаліся паўнамоцтвы маскоўскіх паслоў на элекцыі ў Варшаве; інфармавалася, што маскоўскія паслы не паспеюць прыехаць у Варшаву да 30 чэрвеня 1587 г. і будуць толькі 20 ліпеня 1587 г. [31, с. 82]; просьба выслаць на мяжу прыставаў для хутчэйшага экскорту маскоўскіх паслоў.

Другі дыпламатычны ліст быў накіраваны да паноў-рад ВКЛ з наступным зместам: пералічваліся ўсе папярэднія дыпламатычныя візіты і пагадненні паміж дзвюма краінамі; гаварылася пра падпісанае перамір'е ў Маскве, у адпаведнасці з якім тэрмін яго заканчваўся 1 лістапада 1588 г.; маскоўскім паслам надаваліся шырокія паўнамоцтвы, як у справе выбрання Фёдара Іванавіча на трон РП, так і ў справе аб'яднання дзвюх дзяржаў [32, с. 77—78]; просьба перанесці на пазнейшы тэрмін элекцыйны сойм [31, с. 84; 32, с. 78].

У гэты ж дзень было прынята маскоўскае пасольства [17, с. 26]. Маскоўскія паслы прапанавалі сенатарам падробны план саюза дзвюх дзяржаў, які быў накіраваны ў першую чаргу супраць туркаў і татараў [32, с. 81]. Наступным важным момантам перагавораў бала прапанова абраць Фёдара Іванавіча каралём РП [31, с. 85—86]. На другі дзень, 15 жніўня 1587 г., каля вёскі Каменка была арганізавана сустрэча сенатараў РП з пасламі Маскоўскай дзяржавы для выпрацоўкі дагавора ўзыходжання на каралеўскі трон Фёдара Іванавіча [5, с. 345; 23, с. 149]. Адзначым, што амаль усе прадстаўнікі РП былі літвінамі, верагодна, Карона Польская не хацела ўмешвацца ў гістарычныя дыпламатычныя традыцыі ВКЛ альбо не магла. Сярод прысутнічаючых з боку ВКЛ можна назваць каардынала і віленскага епіскапа Юрыя Радзівіла, кіеўскага епіскапа Якуба Варанежскага, віленскага ваяводу К. Радзівіла, канцлера ВКЛ Астафія Валовіча, троцкага ваяводу Яна Глябовіча, троцкага пана Мікалая Радзівіла Сіротку, старасту жамойцкага Яна Кішку, полацкага ваяводу Мікалая Дарагастанскага, наўгародскага каштэляна Аляксандра Палубянскага, падканцлера ВКЛ Льва Сапегу. Акрамя названых, прысутнічала каля 20 шляхціч аў больш нізкай іерархіі [23, с. 149].

У Каменцы адбылося дзве сустрэчы прадстаўнікоў ВКЛ з маскоўскімі пасламі. Патрабаванні сенатараў ВКЛ зводзіліся да наступнага: прыняцце Фёдарам Іванавічам каталіцкай

веры; захаванне і пашырэнне шляхецкіх вольнасцей; сумесная барацьба супраць ворагаў; выдаткаванне на абарону РП 1 000 000 маскоўскіх грошаў; будаўніцтва за кошт Масквы 30 замкаў на паўднёвых межах ВКЛ і Кароны Польскай; утрыманне за свой кошт каралеўскага двара; вяртанне зямель ВКЛ і Кароны, якія ім належалі да Лівонскай вайны; Інфлянты застаюцца ў складзе РП; аплаціць даўгі караля РП С. Баторыя; адкрыццё новых партоў РП на Балтыцы; арганізацыя гандлю паміж ВКЛ і Масквой; у тытуле павінна спачатку быць кароль польскі і вялікі князь літоўскі, а потым ужо цар усея Русі; у выніку знешняй небяспекі арганізацыя для абароны РП 50 тыс. войска з боку Маскоўскай дзяржавы [15, с. 21].

19 жніўня 1587 г. літоўская дэлегацыя на элекцыйным сойме запатрабавала ад Кароны Польскай падпісаць з Маскоўскай дзяржавай вечны мір, спасылаючыся на тое, што гэта найважнейшае пытанне для РП. Калі палякі адмовіліся падпісаць пагадненне з маскоўскімі прадстаўнікамі, літвінская дэлегацыя пакінула элекцыйны сойм [22, с. 204].

Тым часам 19 жніўня Я. Замойскі з прыхільнікамі абвясцілі каралём РП шведскага каралевіча Жыгімонта [11, с. 268]. 21 жніўня літвінскія дэлегаты Я. Глябовіч, А. Валовіч і Л. Сапега апратэставалі элекцыю, паколькі яна парушала асновы Люблінскай уніі, дзе выбранне караля і вялікага князя было справай сумеснай літвін і палякаў [5, с. 345]. У сваю чаргу 22 жніўня Збароўскія выбралі на вакантны трон эрцгерцага Максіміліяна [5, с. 345; 11, с. 268]. 23 жніўня 1587 г. ВКЛ звярнулася да дзвюх варожых партый з мэтай правесці новую элекцыю, паколькі дзяржава была на мяжы грамадзянскай вайны [1, с. 133; 8, с. 62; 22, с. 208].

**Перамір'е 1587 г.** У такіх умовах, зыходзячы са сваіх інтарэсаў, ВКЛ 25 жніўня 1587 г. падпісала асобна ад Кароны перамір'е з Маскоўскай дзяржавай, якое па сваёй сутнасці супярэчыла палажэнням Люблінскай уніі, дзе менавіта міжнародныя адносіны і знешняя палітыка павінны былі вырашацца супольна [30, арк. 335]. Перамір'е заключалася паміж панамі-радамі ВКЛ і вялікімі пасламі Маскоўскай дзяржавы тэрмінам на 15 год [32, с. 83; 11, с. 269; 17, с. 27]. У кнігах Літоўскай Метрыкі № 593 і № 594 захаваўся поўны тэкст перамір'я. Ён пачынаўся толькі ад імя сенатараў ВКЛ. У прэамбуле перамір'я былі ўпісаны прозвішчы 5 палітыкаў Вялікага Княства [31, с. 89; 32, с. 83]. Далей у перамірным лісце гаварылася, што паслам маскоўскім і Рэчы Паспалітай не давялося на аўдыенцыі 14 жніўня 1587 г. дамовіцца аб аб'яднанні дзяржаў і заключэнні вечнага міру [31, с. 89; 32, с. 83—84].

Перамір'е заключалася тэрмінам да 25 жніўня 1602 г. Яго тэкст утрымліваў умовы: забарона ваенных дзеянняў да канца перамірнага тэрміну [31, с. 89; 32, с. 84]; свабода вядзення гандлю паміж дзяржавамі [31, с. 90]; вызначэнне часовых межаў [31, с. 90; 32, с. 84]; вырашэнне спрэчных пытанняў шляхам утварэння сумеснай камісіі РП і Маскоўскай дзяржавы [31, с. 90; 32, с. 84]; забарона ваенна-палітычнай дапамогі ворагам дадзенага пагаднення [31, с. 90]; нававыбраны кароль РП павінен будзе ад імя ўсёй РП зацвердзіць перамір'е з Маскоўскай дзяржавай [31, с. 90]; свабода перамяшчэння і недатыкальнасць паслоў абедзвюх дзяржаў [31, с. 90; 32, с. 85]; вырашэнне памежных супярэчнасцей мірным шляхам [31, с. 90].

Пасля падпісання перамір'я літвінскія палітыкі разаслалі ўніверсалы з патрабаваннем не пачынаць вайну з Маскоўскай дзяржавай у перамірны тэрмін [23, с. 158]. На думку расійскага даследчыка А. В. Вінаградава, з падпісаннем перамір'я канчаткова не ўдалося вырашыць узаемаадносіны паміж Рэччу Паспалітай і Масквой, паколькі дадзенае пагадненне не ратыфікаваў кароль РП. Адмоўна да перамір'я ставілася і Карона Польская [20, с. 85].

**Пасольства Маскоўскай дзяржавы ў ВКЛ і яго вынікі.** У кастрычніку 1587 г. да сенатараў ВКЛ у Брэст, дзе павінен быў прайсці галоўны з'езд Княства, былі накіраваны пасланнікі Маскоўскай дзяржавы Ржэўскі і Свіязеў з мэтай прадоўжыць перагаворы аб выбранні маскоўскага цара на трон РП альбо непасрэдна ВКЛ [19, с. 108]. Пасланнікі прыбылі ў Брэст 19 снежня 1587 г., дзе і былі адразу ж заслуханы сенатарамі ВКЛ [32, с. 88].

Прапановы маскоўскіх пасланнікаў былі добра распрацаваны і ўяўлялі аб'ёмны знешнепалітычны дакумент [32, с. 89—93]. Ён зыходзіў і спасылаўся на 15-гадовае перамір'е, за-

ключанае прадстаўнікамі ВКЛ і Маскоўскай дзяржавы ад 25 жніўня 1587 г.; утрымліваў аналітычны матэрыял, дзе ўзгадвалася, што як у ВКЛ, так і ў Кароне шмат прыхільнікаў рускага цара Фёдара Іванавіча; даваў характарыстыку двум іншым прэтэндэнтам на трон РП: эрцгерцагу Максіміліяну і шведскаму каралевічу Жыгімонту; Фёдар Іванавіч выказваў асаблівую падзяку літвінскім сенатарам за лабіраванне інтарэсаў Масквы на элекцыйным сойме РП; прапаноўвалася выбраць на трон РП Фёдара Іванавіча; палітычнай эліце гарантаваліся шляхецкія вольнасці; аргументавана даказваўся тэзіс аб немагчымасці змяніць праваслаўную на каталіцкую веру дзеля абрання на трон РП; каранацыя на трон Рэчы Паспалітай па праваслаўным звычаі: «А коруновати се намъ по своему греческому закону от архиепископа и епископа»; выбранне на трон РП Фёдара Іванавіча аўтаматычна прадугледжвала стварэнне ваенна-палітычнага саюза супраць туркаў і татараў [31, с. 94—95]; скарга на жыхароў ВКЛ, якія робяць набегі і грабеж памежных тэрыторый Маскоўскай дзяржавы [31, с. 98].

Міжнародная сітуацыя вакол выбрання караля РП змянялася не на карысць цара Фёдара Іванавіча. Палітыкі ВКЛ адзін за адным пераходзілі на бок шведскага каралевіча Жыгімонта, што рабіла немагчымым далей весці перагаворы. На аўдыенцыі сенатары ВКЛ выказалі падзяку Фёдару Іванавічу за жаданне стаць каралём РП, назвалі прычыны, па якіх ён — цар — не можа быць абраны [31, с. 99]. Зыходзячы са сваіх знешнепалітычных інтарэсаў, паны-рада Княства выказвалі надзею, што дзве дзяржавы будуць жыць і далей у згодзе [31, с. 99].

**Каранацыйны сойм Рэчы Паспалітай і інтарэсы Княства.** Каранацыйны сойм РП праходзіў у Варшаве ў снежні 1587 г. — студзені 1588 г. У Варкалабаўскім летапісе так запісана з нагоды каранацыі Жыгімонта III: «Року Божого нарож. 1588 взято на кролевство у Кракове на Вознесенне Христово» [33, с. 17]. Трэба адзначыць, што Карона Польская прызнала Жыгімонта каралём дзяржавы яшчэ 27 снежня 1587 г., а дэлегацыя ВКЛ не спяшалася гэта рабіць, хаця, безумоўна, перавага была за шведскім каралевічам [18, с. 7]. У планы літвінскіх палітыкаў уваходзіла патрабаваць ад караля пацвярджэння перамір’я з Масквой ад 25 жніўня 1587 г., вярнуць пад уладу Княства Інфлянты і зацвердзіць новы Статут ВКЛ [4, с. 59]. Літвінскія палітыкі яшчэ памяталі другое бескаралеўства ў РП, калі ў падобным выпадку С. Баторыю патрэбна было ісці на ўступкі ВКЛ дзеля абрання на трон дзяржавы.

У сваю чаргу прадстаўнікі Кароны Польскай, ды і Жыгімонт не маглі пагадзіцца з неабходнасцю пацвярджэння перамір’я з Масквой, паколькі гэта звязвала рукі на Усходзе і, адпаведна, перакрэслівала планы распачаць новую вайну. На такіх планах настойваў канцлер Кароны Польскай Я. Замойскі [17, с. 26]. Тым не менш 13 студзеня 1588 г. па дадзеным пытанні адбыліся перагаворы сенатараў Вялікага Княства Літоўскага і Кароны Польскай [22, с. 217]. У выніку складаных перагавораў Жыгімонт пагадзіўся на патрабаванні літвінскіх сенатараў і 28 студзеня 1588 г. ВКЛ прызнала Жыгімонта вялікім князем літоўскім [22, с. 219—220; 12, с. 82]. Цікава, што вялікім князем літоўскім Жыгімонт III быў абвешчаны праз падканцлера ВКЛ Л. Сапегу, паколькі не было літоўскага маршалка [11, с. 273].

**Заключэнне.** Найважнейшымі задачамі для ВКЛ падчас элекцыйнага і каранацыйнага сойма ў былі зацвярджэнне новападрыхтаванага Статута Княства, заключэнне мірнага дагавора з Масквой на выгадных для Вільні ўмовах і вяртанне пад уладу ВКЛ Інфлянтаў. Дыпламаты ВКЛ выкарысталі маскоўскі вектар як элемент уздзеяння на Карону Польскую. Як і на першым этапе бескаралеўства, перагаворы з маскоўскімі прадстаўнікамі амаль поўнасцю вялі літвіны, пакінуўшы палякам толькі цырыманіяльныя моманты.

Масква на элекцыйным сойме прапанавала сенатарам дапрацаваны план саюза на чале з маскоўскім царом, які меў ваенна-палітычную накіраванасць супраць Порты і Крыма. Асноўнымі літвінска-маскоўскімі супярэчнасцямі падчас перагавораў пад Варшаваю былі: вера маскоўскага цара, месца каранацыі і месца пастаяннага знаходжання кіраўніка дзяржавы. Літвінскія патрабаванні да Фёдара Іванавіча відавочна былі завышаны і па сваёй сутнасці не супярэчылі польскім патрабаванням, што дае падставу сцвярджаць аб незацікаўленасці бачыць

маскоўскага прадстаўніка на троне РП. Працягвалася дыпламатычная гульня з Масквой, каб схіліць палякаў да саступак, як гэта было падчас першага і другога бескаралеўства.

Прычынай падпісання прадстаўнікамі ВКЛ асобнага перамір'я з Маскоўскай дзяржавай ад імя ўсёй РП стала падвойная элекцыя на трон РП шведскага каралевіча Жыгімонта і аўстрыйскага эрцгерцага Максіміліяна. 15-гадовае перамір'е супярэчыла палажэнням Люблінскай уніі і не мела юрыдычнай сілы ў рамках РП, хаця фактычна было юрыдычнай асновай міждзяржаўных адносін з Маскоўскай дзяржавай да перамір'я 1591 г. Каранацыйны сойм засведчыў частковае выкананне патрабаванняў ВКЛ: перамір'е 1587 г. не было зацверджана соймам РП, а Інфлянты пераходзілі пад сумеснае ўладанне ВКЛ і Кароны Польскай. Зацверджаны Жыгімонтам III новы Статут ВКЛ абвяшчаў праграму аднаўлення далюблінскіх межаў Княства, гарантаваў паслам недатыкальнасць, вызначаў кампетэнцыю вялікага князя літоўскага, гетманаў, соймаў і соймікаў ВКЛ у знешнепалітычнай вобласці.

## ЛІТАРАТУРА


1. *Дземідовіч, А. В.* Адносіны Вялікага княства Літоўскага са Шведскім каралеўствам у канцы XVI — пачатку XVII ст. у святле рашэнняў Люблінскага сойму 1569 г. / А. В. Дземідовіч // Studia Historica Europae Orientalis : Исследования по истории Восточной Европы : науч. сб. / отв. ред. А. В. Мартынюк, Г. Я. Голенченко. Минск, 2008. Вып. I. С. 132—140.
2. *Довнар-Запольский, М. В.* Баркулабовская летопись / М. В. Довнар-Запольский. Киев : Типография Императорского университета св. Владимира Н. Т. Корчак-Новицкого, 1908. [2], 38, 12 с.
3. *Снапкоўскі, У. Е.* Пра калізіі знешнепалітычных інтарэсаў польскай Кароны і Вялікага Княства ў складзе Рэчы Паспалітай / У. Е. Снапкоўскі // Спадчына. 1995. №3. С. 189—200.
4. *Тихомиров, А. В.* Внешнеполитический механизм и организация дипломатической службы Речи Посполитой и Великого княжества Литовского в 1569—1795 гг. А. В. Тихомиров // Бел. журн. межд. права и межд. отношений. 1998. №3. С. 52—61.
5. *Чаропка, В.* Уладары Вялікага княства / В. Чаропка. Мінск : Беларусь, 2007. 605, [2] с.
6. *Шкялёнак, М.* У трохсотыя ўгодкі смерці Вялікага Канцлера Льва Сапегі / М. Шкялёнак. Мінск : Адраджэнне, 1990. С. 17—45.
7. *Якубаў, В. У.* Узаемаадносіны ВКЛ і Польскага каралеўства ў дачыненні да Інфлянтаў у 1582—1621 гг. / В. У. Якубаў // Studia Historica Europae Orientalis. Исследования по истории Восточной Европы: науч. сб. 2008. Вып. 1. С. 116—131.
8. Яснавельможны пан Леў Сапега: Міталягіз. біягр. Гомель : Парадокс, 2001. 199 с.
9. *Рахуба, А.* Вялікае Княства Літоўскае ў парламенцкай сістэме Рэчы Паспалітай 1569—1763 гг. / А. Рахуба. Мінск : Медысонт, 2008. 423 с.
10. *Jasienica, P.* Rzeczpospolita obojga narodow / P. Jasienica. T. 1: Srebrny wiek. Warszawa : Czytelnik, 1999. 463 s.
11. *Kempa, T.* Mikołaj Krzysztof Radziwiłł Sierotka, 1549—1616: Wojewoda Wileński / T. Kempa. Warszawa : Semper, 2000. 381 s.
12. *Koziński, Z.* Źródła do dziejów parlamentaryzmu polskiego w XVI—XVIII wieku w zbiorach Biblioteki Jagiełłonskiej / Z. Koziński, Z. Pietrzyk. Kraków : [Biblioteka Jagiełłońska], 2004. 108 s.
13. Królowie elekcyjni : Leksykon biograficzny / Aut. : Janusz Byliński, Edmund Cieslak, Janusz Dabrowski et al. Kraków : Wyd-wo Literackie, 1997. 280 s.
14. *Lepszy, K.* Miejsce i rola Polski w polityce międzynarodowej w II połowie XVI wieku (1573—1606) / K. Lepszy // VIII Powszechny zjazd historyków polskich w Krakowie 14—17 września 1958. Referaty i dyskusja. Warszawa, 1960. 353 s.
15. *Malec, J.* Szkice z dziejów federalizmu i myśli federalistycznej w czasach nowożytnych / J. Malec. Kraków : Wyd-wo Uniw. Jagiełłońskiego, 1999. 173 s.
16. *Przybas, A.* Dyplomaci w dawnych czasach. Relacje staropolskie z XVI—XVIII w. / A. Przybas, R. Żelewski. Kraków : Druk. Uniw. Jagiełłońskiego, 1959. 450 s.
17. *Wiśner, H.* Król i Car. Rzeczpospolita i Moskwa w XVI i XVII w. / H. Wiśner. Warszawa, 1995. 144 s.
18. *Wiśner, H.* Rzeczpospolita Wazów : czasy Zygmunta III i Władysława IV / H. Wiśner. Warszawa : Neriton : Instytut Historii PAN, 2002. 338 s.

19. *Бантыш-Каменский, Н. Н.* Обзор внешних сношений России (по 1800 год) / Н. Н. Бантыш-Каменский. М. : Тип. Э. Лисснера и Ю. Романа, 1897. Ч. 3: Курляндия, Лифляндия, Эстляндия, Финляндия, Польша и Португалия. 319 с.

20. Геополитические факторы во внешней политике России: вторая половина XVI — начало XX века: к 100-летию акад. А. Л. Нарочницкого / А. В. Игнатьев и др. М. : Наука, 2007. 358, [1] с.

21. *Карамзин, Н. М.* История государства Российского: в 4 кн. / Н. М. Карамзин. [Вступ. ст., коммент. к письмам А. Ф. Смирнов; сост., коммент. А. М. Кузнецов]. Кн. 4. Т. 10—12. М. : РИПОЛ классик, 2001. 734 с.

22. *Флоря, Б. Н.* Русско-польские отношения и политическое развитие Восточной Европы во второй половине XVI — начале XVII вв. / Б. Н. Флоря. М. : Наука, 1978. 300 с.

23. *Щербатов, М. М.* История российская от древнейших времен: в 7 т. / М. М. Щербатов. Т. 6: От начала царствования царя Федора Иоанновича до его кончины. Ч. 1: От возшествия на престол царя Феодора Иоанновича до убиения царевича Димитрия. Спб. : При Имп. Акад. наук, 1790. 362 с.

24. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей — НГАБ). Ф. КМФ 18. Воп. 1. Спр. 593 — Переписка Стефана Батория и царей Федора Иоанновича и Бориса Годунова, 1585—1605. Ч. 1—2.

25. НГАБ. Ф. КМФ 18. Воп. 1. Спр. 593 — Переписка Стефана Батория и царей Федора Иоанновича и Бориса Годунова, 1585—1605. Ч. 3—4.

26. НГАБ. Ф. КМФ 18. Воп. 1. Спр. 593 — Переписка Стефана Батория и царей Федора Иоанновича и Бориса Годунова, 1585—1605. Ч. 5.

27. НГАБ. Ф. КМФ 18. Воп. 1. Спр. 594 — Переписка государей Речи Посполитой и Московии, 1585—1600 гг. Ч. 1—2.

28. НГАБ. Ф. КМФ 18. Воп. 1. Спр. 594 — Переписка государей Речи Посполитой и Московии, 1585—1600 гг. Ч. 3—4.

29. НГАБ. Ф. КМФ 18. Воп. 1. Спр. 594 — Переписка государей Речи Посполитой и Московии, 1585—1600 гг. Ч. 5.

30. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 79 (Зносіны Расіі з Польшчай). Воп. 1. Спр. 18 — Дыпламатычная перапіска Расіі з Польшчай.

31. Lietuvos metrika / Lietuvos istorijos institutas. Kn. 593: (1585—1604): Diplomatini reikal knyga / pareng Algirdas Baliulis. Vilnius : Lietuvos istorijos institutas leidykla, 2009. 293 c.

32. Lietuvos metrika / Lietuvos istorijos institutas. Kn. 594: (1585—1600) / pareng Algirdas Baliulis. Vilnius : Lietuvos istorijos institutas leidykla, 2006. 297 p.

33. Варколабовская летопись / под ред. действит. члена комитета Е. Р. Романова. 1910. [31] л.

34. Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1: IX—XVIII ст. / скл.: В. К. Шчарбакоў, К. I. Кернажыцкі і Д. І. Даўгяла. Мінск, 1936. XVI, 678 с.

## РЕЗЮМЕ

В статье рассматриваются взаимоотношения Великого Княжества Литовского и Московского государства на втором этапе третьего бескоролевья в Речи Посполитой, а именно в период с 30 июня 1587 г. по 30 января 1588 г. На основе выявленных источников и литературы проанализированы характер взаимоотношений государств во время элекционного и коронационного сеймов, исследованы причины и условия перемирия 1587 г. между Речью Посполитой и Московским государством, показано влияние международных факторов на внешнеполитическую позицию ВКЛ.

## SUMMARY

The article deals with diplomatic relations between the Grand Duchy of Lithuania and the Muscovy during the period when The Rzeczpospolita for the third time was without King (June 30, 1587 — January 30, 1588). The author on the basis of literature and sources has analyzed the character of the states relations during the coronation Diets. The author has investigated truce's reasons and conditions 1587 between Rzeczpospolita and Muscovy, and also the influence of international factors on foreign policy stance of the Grand Duchy of Lithuania during this time.

Статья поступила в редакцию 9 июля 2012 г.